Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada

## КАМУНІКАТ Но. 5 (79 ад 1999), КАСТРЫЧНІК, 2003

### 8 ВЕРАСЬНЯ -ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

8 врасьня 1514 году ля Воршы 30-тысячнаяе беларускае войска пад камандаваньнем гэтмана Беларуска-Літоўскай дзяржавы князя Канстантына Астроскага разграміла 80-тысячную армію Маскоўскага вялікага княства пад камандаваньнем Міхала-Булгакава.

**У верасьні сёлета споўнілася 50 год ад нараджэньня беларускага гісторыка й пісьменьнкя Уладзіміра Арлова.**

З найлепшымі юбілрйнымі пажаданьмямі, падзякай за такія творы, як «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» (суаўтар Генадзь Сагановіч), «Адкуль наш род», «Пяць мужчын у лесьнічоўцы» ды іншыя на гістарычныя тэмы кнігі , шлем Яму нашы вітаньні, і ніжэй падаем Ягоны расказ-вытрымку з кнігі **«Дзесяць вякоў беларускай гісторыі. 862 - 1918»** (бач. 86-89):

### «Бітва пад Воршай. 8 верасьня 1514

На зыходзе 1512 году Маскоўская дзяржава распачала новую вайну за «іскони русскія землі» - Беларусь і Украіну, што пад уладаю Маскоўшчыны ніколі не былі.

Фарпостам Вялікага Княства на ўсходзе быў старажытны беларускі горад Смаленск. У ліпені 1514 году яго ўзяло ў аблогу велізарнае 80-тысячнае войска маскоўца1ў, папоўнянае наймітамі з заходнеэўрапэйскіх краінаў. Па гарадзкіх умацаваньнях амаль безперапынна білі трыста гарматаў. Ваявода Юры Салагуб капітуляваў.

Натхнёны посьпехам маскоўскі князь Васіль III кінуў свае войскі ў глыб Беларусі. Усьлед за Смаленскам здаліся ворагу Крычаў, Амсьціслаў і Даброўна. Крамлёўскі валадар быў на столькі ўпэўнены ў сваёй перамозе, што пад час адной з застоліц загадаў сваім ваяводам «войскі літоўскія й польскія з каралём да Масквы як быдла пугамі гнаці». Над дзяржаваю запраўды павісла сьмяротная небясьпека.

Вялікі князь Жыгімонт Стары здолеў сабраць пад свае сьцягі ў Менску толькі 35 тысяч ваяраў. Тут былі 16 тысяч коньнікаў паспалітага рушэньня Вялікага Княства пад камандаваньнем славутага гэтмана Канстантына Астроскага, 14 тысяч польскіх конных жаўнераў, тры тысячы найманай пяхоты й 2500 шляхціцаў-дабраахвотнікаў з Польшчы. Жыгімонт з чатырохтысячным войскам застаўся ў



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

Барысаве , а аснаўныя сілы на чале з Астроскім рушылі насустрач варожай ардзе. Пры канцы жніўня адбыліся першыя сутычкі з ворагам на рэках Бярэзіне, Бабры й Друці.

Пасьля некалькіх паразаў расейскае войска спынілася паміж Воршай і Дуброўняй на рацэ Крапіўне. Тут і адбылася генэральная бітва. Частка коньніцы Астроскага ўброд і наўплыў - бяз стратаў - перанеслася цераз Дняпро. Астатнія коньнікі, пяхота й артылерыя пераадолелі раку трохі вышэй, на таемна наведзеным наплаўным мосьце. Палкі Канстантына Астроскага пачалі шыхтавацца насупраць стану маскоўцаў уначы з 7 на 8 верасьня. У цэнтры гэтман паставіў 16 тысяч ліцьвінскай коньніцы, па баках - палякаў. Наперадзе былі сабраныя сама трапныя стралкі..

На досьвітку пад гукі трубаў і бубнаў маскоўскія ваяводы Чалядзін і Булгакаў-Голіца павялі паклі ў першую атаку. Астроскі зьвярнуўся да сваіх ваяраў з кароткай гарачаю прамовай: «Мужныя рыцары! Няхай доблесьць і мужнасьць вашы будуць вартыя слаўных бацькоў!...»

Няўдача першай атакі ня надта зьбянтэжыла Чалядзіна й Голіцу: у іх была амаль трохразовая перавага - 80 тысяч супраць 30. Такая самаўпэўненасьць саслужыла ваяводам дрэнную службу. Яны кепска ўзаемадзейнічалі, і нават не лічылі патрэбным дапамагаць адны аднаму. Калі ваяры Астроскага ўдарылі па палках Булгакава-Голіцы, Чалядзін ад бою ўхіліўся, а калі ўдар абрынуўся на ягоных ваяраў, Голіца адплаціў тым самым.

Спроба абыйсьці нашае войска і наляцець з тылу не ўдалася, і пасьля паўдня маскоўскія ваяры кінулі на праціўніка галоўныя сілы. Сеча дасягнула найвышэйшага напалу. Гэтман быў сярод сваіх жаўнераў. Ягоная ўзьнятая над галавою булава дадавала мужнасьці слабейшым.

І раптам сталася нечаканае: коньніца Астроскага завагалася, спыніла націск, а потым і наагул пакацілася назад. Расьцягнутыя баявыя палкі маскоўцаў зь пераможнымі баявымі крыкамі пайшлі ў наступ . Колькі хвілінаў коньнікі й сапраўды ўцякалі, а тады зьнячэўку крута павярнулі ўбок. Расейская дваранская коньніца апынулася пад пакінутымі ў засадзе гарматамі.

Сьмяротны град артылерыі спыніў атаку. Чужынцы, зьбіваючыся ў бязладныя натоўпы , замітусіліся й паказалі нядаўнім «уцекачом» сьпіны. Коньніца Астроскага расьсекла сьціжму заваёўнікаў на часткі і рассеела іх на шырокім прырэчным полі.

Ворагаў гналі і секлі яшчэ пяць вёрстваў. Вада ў Крапіўне пачырванела ад крыві і, паводле паданьня, выйшла зь берагоў, бо целы мноства забітых загацілі раку. Шмат хто з ваяўнікоў знайшоў бясслаўную сьмерць у Дняпры, у навакольніх лясох і балотах.

Летапісы і кронікі паведамляюць, што маскоўская рэць страціла забітых 40 тысяч. Чалядзін, Булгакаў-Голіца і яшчэ восім ваяводаў трапілі ў палон. Разам зь імі ў руках пераможцаў апынуліся дзьве тысячы «дзяцей баярскіх» і тры тысячы шэраговых воінаў. Прыталомшаны весткаю пра поўны разгром свайго войска , Васіль III абвясьціў, што ўсе палонныя для яго - мёртвыя, і кінуў іх на вырак лёсу. Булгакаў-Голоца вярнуўся ў Масковію толькі ў 1552 годзе.

Аршанская бітва стала адной з найбуйнейшых у Эўропе XVI стагодзьдзя. Бліскучая перамога нашае зброі аддала і ініцыятыву вайны ў рукі Вялікфага Княства

Літоўскага.

Усе захопленыя маскоўцамі гарады, апрача Смаленску, былі вызваленыя. Пачаў развальвацца накіраваны супраць Вялікга Княства й Польшчы таемны аліянс Масковіі ды эўрапэйскіх дзяржаваў. Крымскія татары ўражаныя перамогаю пад Воршай , на два гады спынілі набегі на Княства, і павярнулі сваіх коней у бок Масквы.

У сьнежні 1524 году вялікі гэтман Канстантын Астроскі трыумфальна ўступіў у сталіцу нашай дзяржавы Вільню. У гонар перамогі на ягоныя сродкі ў Вільні былі збудаваныя праваслаўныя храмы Сьвятой Тройцу і Сьвятога Мікалая.

Апісаньне бітвы пад Воршай зьмешчанае ў «Кроніцы» Мацея Стрыйкоўскага. Празь некалькі гадоў пасьля перамогі невядомым мастаком было створанае маляўнічае батальнае палатно, на якім адлюстраваны адзін з эпізодаў сечы. . На карціне, што захоўваецца ў Нацыянальным музэі ў Варшаве, можна ўбачыць баявыя бел-чырвона-белыя сьцяжкі беларускіх ваяраў. Гэта першая па часе выява нашага нацыянальнага сьцягу.

Памяць пра слаўную перамогу ўвасобілася і ў старадаўняй беларускай народнай песьні.:

Ой, у нядзельку параненька
Узышло сонца хмарненька,
Узышла сонца над борам,
Па-над Сялецкім таборам.
А ў таборы трубы йграюць,
Да ваяцкае нарады зазываюць,
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршы здабываці:
А ці з поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічка?
Ані з поля, ані з лесу,
Толькі з рэчкі нявялічкі.
А ў нядзельку параненьку
Сталі хлопцы-пяцігорцы,
Каля рэчкі на прыгорцы:
Гучась разам з самапалаў,
З сяміпалых ад запалаў,
Б'юць паўсоткаю з гарматаў .
Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці;
А як з Воршы уцякалі
Рэчку невялічку праклінaлі:
«Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,
Як нашая слава тутака прапала,
Бадай высыхала да сканчэньня сьвету,
Што нашай славанькі ўжо нету.».
Слава Воршы ўжо ня горша
Слаўся, пан Астроскі!

У 1992 годзе ў дзень гадавіны бітвы пад Воршай на пляцы Незалежнасьці ў Менску адбылася прысяга беларускіх вайскоўцаў на вернасьць свайму народу.

У. А. »

**Беларускае грамадзтва Канады, праз свой Каардынацыйны Камітэт, вітае Вас, Спадар Уладзімір Арлоў, з Залатым юбілеем, жадае даўгога творчага жыцьця, і багатых плёнаў у працы. СТО ГОД 1**

У XVI стагодзьдзі народ склаў песьню пра бітву й перамогу пад Воршай.

А **Натальля Арсеньнева , паэтка XX стагодзьдзя,** апела бязупыннае змагальне беларусаў з «Усходам, крывавым, і дадзелым, што лёс на каркі нам усклаў » на працягу вякоў, у вершы:

**ТЫ НЕ АДНА**

Ты не адна,
о, Случчына, ня першай
ты была у нас, ні на Табе - канцы.
Нядолю й славу нашую не прыцярушыць стынь.
Ублытаны яны нат у чужыя вершы -
Монтэ-Касына
і Катынь.....
І, неаплаканых сьлязою жоўтай воску,
іх - слуцкіх, ці наваградзкіх - ляжыць
ці мала ўжо ўздоўж бяз.межнае мяжы
зямлі, у нетры тайгавай, на ўскраі родных вёскаў ...
Крыжы бо ўсюды і крыжы.....
Было ўсяго ў нас : паходаў трубы горны
баёў, распаленых да чырвана, мячы,
нязможныя пад Воршай, і мячы Грунвальду.....
Шлях да мораў торны.....
І Каліноўскага пачын.....
Быў Сакавік.....
Але.....
і вал счарнелых целаў
у палынох сівых пад Ворсклай.....
Амсьціслаў.....
Вядроша..... Быў вялікі чужынцам папас, паплаў.....
І быў - ды й ёсьць - Усход, крывавы і дадзелы,
што лёс на каркі нам усклаў.
Хто нас не прадаваў, ня браўся ірваць з карэньнем,
хто парасткаў зялёных не таптаў?
Ці ўвосень не па іх галосе Палата,

уздыхае прадзед Нёман, і старэнна
складае сказ народ.....
Хай так.....
Ды мы - жывыя ўсьцяж, нат тыя, што памершы,
і заўтра ўжо мо зноў лынуць у бой байцы,
жаўнерскай песьні губячы гасьцінцам шумяльцы,
бо - не адна ты, Случчына, у нас.
Ні першай
ты не была,
ні на табе канцы.

1960

***** ***** ***** ***** *****

. Нам трэба ведаць «Адкуль наш род» , трэба ведаць гістоеыю Беларусі, але трэба ведаць і гісторыю свае арганізацыі - Згуртаваньня Беларусаў Канады, Каардынацуйнага Камітэту Беларусаў Канады, трэба ведаць і пра іх сяброў, што зрабілі падклад арганізаванага беларускага нацыянальнага жыцьця у Канадзе для наступных пакаленьняў .

## Юбілей Антона Маркевіча

Сёлета споўнілася 80 год дзейнаму сябру Згуртаваньня Беларусаў Канады - спадару Антону Маркевуічуу. Беларускае грамадзтва Канады - Згуртаваньне Беларусаў Канады, Каардытнацыйны Камітэт Беларусаў Канады - вітае спадара Антона Маркевіча з 80-мі ўгодкамі жыцьця.

Антон Маркевіч амаль ад самога пачатку - 50-х гадоў - дзейны сябнра ЗБК. Да 1965 году, ён праз болей як 10 гад запар быў сакратаром Згуртаваньня Беларусаў Канады. Яму далі мянушку «вечны сакратар». І добры гэта быў сакратар. Пры патрэбе, пры нагодах пісаў лісты да ўрадавых дзейнікаў Таронта, правінцыі Онтарыё, а то й да Федэральнага Ураду Канады. Пісаў ён лісты й пратаколы ад рукі. Мае добры, выраблены почарк і пісаў без памылак. Таму-ж яго бязконца ў сакратары й выбіралі.

У 1971 годзе перд 25 САКАВІКОМ Антон Маркевіч - удзельнік беларускае дэлегацыі, якая ўручыла адпаведннаму ўрадацу City Hall Taronta беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг, які пачынаючы з 1971 г, з году ў год Сіты Гол Таронта на 25 Сакавіка ўзьнімае каля ратушы Таронта. Антон і задакумэнтаваў гэтую гістарычную падзею здымкам (бач. 532 у кнізе «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча»).

Быў Антон Маркевіч дзейным супрацоўнікам Кастуся Акулы, старшыні Клюбу «ПАГОНЯ».

Антон Маркевіч сталы ўдзельнік паломніцтваў да Беларускага сьвятога мейсца - “Belarusan Shrine” u “Martyrs’ Shrine in Midland Ontario” . Ён па сяньня сталы ўдзельнік усіх імпрэзаў, што абываюцца ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры. Ён ахвярны на беларускія грамадзкія патрэбы, ідэйны беларус і прыкладны сябра беларускае арганізацыі.

Жадаем Вам, спадар Антон, добрага здароўя, і шмат гадоў яшчэ цешыцца

гэтым сьветам. Сто Год!

Раіса Жук-Грышкевіч

## ПАМЯЦІ ІРЭНЫ БУДЗЬКА-ПАНУЦЕВІЧ

29 верасьня, 2003, у Чыкага памерла Ірэна Пануцэвіч, найстарэйшая дачка ведамага беларусклага дзеяча Эдварда Будзькі, які быў равесьнікм Янкі Купалы й Якуба Коласа, зь якімі супрацоўнічаў у «Нашай Ніве», але быў старэйшым за іх нашаніўцам і належаў да старэйшых беларускіх дзеячоў. Ужо ў 1901 годзе Эдвард Бдзька зарганізаваў беларускую калёнію ў Рызе, Латвіі. Ён пашыральнік беларускае сьведамасьці, беларускае кніжкі й газэты., публіцыст, рэдактар-выдавец беларускае газэты «Дзяньніцы» у Петраградзе ў 1916 г., а ў 1920 - «Беларускае думкі» у Вільні. (Пра Эдварда Будзьку артыкул «Сьмерць Здварада Будзькі» ў кнізе «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча», бач. 198 - 296)

Ірэна Будзька-Паныцэвіч была родам з Будслава, вялейскага павету жыла з сям'ёй Буцькаў, у Вільні. Тут яна скончыла Віленсклую Беларускую Гімназію, студыявала на Унівэрсытэце Сьцяпана Батуры, была сяброўкай Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні, сьпявала ў Беларускім студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Выйшла замуж за юрыста-гісторыка Вацлава Пануцэвіча, таксама сьпярша віленскага студэнта й сябры Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні.

Пасьля вайны Ірэна Пануцэвіч з мужам і ўсёй сям'ёй Будзькаў апынулася ў Нямеччыне, у беларускім лягеры ДП у Ватэнштэце, што каля Браўншвайгу ангельскае зоны Нямеччыны. Тут муж Ірэны Вацлаў Пануцэвіч заснаваў і быў дырэктарам Беларускае гімназіі, быў заснавальнікам і галоўным кіраўнікам Беларускага скаўтынгу ў Нямеччыне. Ірэна Вудзька, цяпер ужо Пануцевіч, як і ейная сястра Людовіка й брат Часлаў былі настаўнікамі ў беларускай гімназіі. Усе яны трое мелі сільны мастацкі нахіл. У кватэры Будзькаў месьціліся пішучыя машынкі й рататар, на якім друкаваліся падручнікі для беларускае пачаткавае школы, ды выходзіла выдавецтва беларускага лягеру Ватэнштэту

Пасьля эміграцыі за акіян Ірэна Пануцэвіч і ўся сям'я Будзькаў апынуліся ў Чыкага, дзе праз увесь час былі актыўнымі і творчымі дзеячамі беларускага нацыянальнага жыцьця ў Чыкага.

Ірэна Будзька-Пануцэвіч побач свае сясры Людовікі й брата Часлава былі галоўнымі стваральнікамі высока-эстэтычных і багатых нацыянальна-беларускім зьместам мастацка-навуковых выставак на форуме гораду Чыкага.

Ірэна Будзька-Пануцэвіч пражыла даўгое, 95-ці (?) гадовае, карыснае для беларускага вызвольнага руху, жыцьцё. Вечная Ёй памяць.

Раіса Жук-Грышкевіч

---

**Бэры, Канада**
**Кастрычнік, 2003**

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**
**Былы Старшыня ККБК**

---